Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобанага нум. 40 грошы.

# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

Адрас Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятніцы
ад 10 да 14 гадз.

№ 1 (7)

1938 г.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

---

## ЗЪМЕСТ:





# Беларуская Борць

№ 1 (7) (25) ТРАВЕНЬ 1938 г. ГОД V



## Ад рэдакцыі.

Гэтым нумарам мы распачынаем пяты год выдаваньня. Тэрмін праўда вельмі скромны, але бывае што і гэтакі можа стварыць нават цэлую эпоху.

Кінуўшы вокам на пройдзены шлях, мы сьмела можам сказаць, што наша праца не прайшла няпрыкметна. Ня гледзячы на тое, што Бел. Борць выходзіла непэрыядычна і не акуратна, з вялікімі перарывамі і пры тым у дужа скромных разьмерах, аднак здолела яна стацца нават за гэтакі кароткі час папулярнай ува ўсіх кутках нашае старонкі, усюды, дзе толькі дайшлі весткі аб яе існаваньні. Адным словам, Бел. Борць здабыла сабе правы грамадзкасьці. Пры гэтым павінны мы яшче адзначыць, што прыхільна спаткала нас фаховая прэса і грамадзькасьць і іншых народаў, зразумелі толькі тыя, для каго слова беларускі не зьўляецца пужалам, але хто падходзіць да нас спакойна і аб'ектыўна, ацэніваючы ўсё нашае крытычна з пункту гледжаньня карысьці і вартаснасьці. Што-ж зьяўляецца прычынаю гэтага пасьпеху, гэтае папулярнасьці Бел. Борці.

Бел. Борць вышла ў той час, калі перад земляробствам адчыніліся новыя кругавіды. Вынікі сусьветнай вайны і гаспадарчы крызыс, які паўстаў праз колькі гадоў, паставілі перад земляробствам новыя заданьні. Вясьці гаспадарку старымі мэтадамі, абмяжоўвацца толькі вытворчасьцю не займаючыся справамі эконамікі — стала не магчымым. Каб не загінуць, каб мець што-небудзь за сваю мазольную працу, земляробу нават самаму дробнаму трэба сачыць і за ўсім што дзеіцца на сьвеце, і знаёміцца з эканамічным бокам гаспадараваньня, і з досьледамі і пасьпехамі навукі і з тым, як можна прыстасаваць усё гэта ў сваім штодзенным жыцьці, у сваей штодзеннай працы.

Паўстала патрэба ня толькі асьветы наагул, але і асьветы фаховай земляробскай, патрэба карыстаньня кніжкаю, фаховым часапісам.

Школа не магла і ня можа даць фундаманту веды шырэйшым слаём земляробаў. Мала маем гэтакіх школаў і даступны яны толькі адзінкам і пры гэтым трэба прызнацца, што вельмі часта гэтыя адзінкі, здабыўшы веду не вяртаюцца ў сваю вёску, каб служыць ей сваей ведаю і ідуць далей у людзі.

Для шырокіх кругоў астаюцца толькі кніжка і фаховыя часапісы. Але і тут трэба сцьвердзіць, што і яны далёкія ад таго, каб выканаць гэтае заданьне. Па першае мала маем добрых кніжак у мове даступнай нашаму селянству, а па другое як аўтары, так рэдакцыі часапісаў не дацэніваюць таго, што, нашыя землі знаходзяцца у адменных кліматычных варунках і што культура нашае глебы і клімат вымагаюць, дзеля гэтага





асобнага падыходу да іх, а не накідываньня нам мэтадаў і практыкі здабытых у неадпаведных кліматычных варунках.

Бел. Борць, якая паўстала як часапіс чыста пчалярскі, адчула ўсе гэтыя недахопы і перабудавалася ў часапіс агульна гаспадарчы, каб у межах сваіх сілаў і магчымасьцяў, дапамагаць нашаму селянству гаспадарыць пры сучасных варунках жыцьця.

Праўда няшмат зрабілі мы ў гэтым напрамку, але не наша ў гэтым віна. Апрача нашае добрае волі патрэбныя былі дзеля гэтага і адпаведныя грашовыя сродкі, якія далі-б нам магчымасьць акуратна і пэрыядычна выпускаць у сьвет нумары Бел. Борці. Гэтых сродкаў мы чакалі і чакаем ад сваіх чытачоў ад усяго беларускага грамадзянства наагул. Колькі атрымалі — толькі і далі, бо ўласных грошаў ня маем, а ніякіх субсыдыяў і дапамогаў ня было адкуль і спадзявацца.

Працуючы вось у гэтакіх варунках Бел. Борць здолела аднак зацікавіць шырокія кругі нашага селянства, што зьяўляецца найлепшым доказам таго, што гэтакі часапіс ёсьць патрэбны і што напрамак нашае працы правільны.

Выпускаючы гэты нумар Бел. Борці, мы спадзяёмся, што нашы чытачы дапамогуць нам у гэтым, каб цяпер Бел. Борць магла выхадзіць сыстэматычна і акуратна. Вялікага не вымагаем — просім толькі аб прысылцы падпіскі, якая і вызначана ў такіх размерах, каб можна было толькі аплаціць кошты друку і перасылкі. Супрацоўнікі нашы платы за сваю працу ад нас ня просяць. Іхняя заплата — гэта сьвядомасьць выкананага грамадзкага абавязку.

Атрымаючы ад Вас гэтыя сродкі, мы зробім усё, што толькі можна, каб Бел. Борць была карыснай і цікавай для кожнага з Вас.

*М.*

---

# МЕДАВАНЬНЕ РАСЬЛІН.

Хоць расьлінаў вытвараючых мёд вельмі шмат, але такіх расьлінаў, якія вытвараюць шмат мёду, ня так многа. Ды апрача таго, адна і тая самая расьліна пе аднолькава мядуе. А гэта залежыць ад шмат якіх варункаў, якія могуць зьмяняцца ў кожным асобным выпадку. Сярод гэтых варункаў вялікі ўплыў аказваюць: век расьліны, стан пагоды і пара дня, а таксама клімат, глеба, сьвет і г. д. Найбольшая колказьць нэктару, з якога пчолы выpабляюць мёд, набіраецца ў кветках у часе развіцьця тычкаў і слупкоў. Незалежна ад гэтага кветкі больш мядуюць у першую палову дня — раніцаю, пасля-ж паўдня дзеяльнасьць нэктарнікаў значна слабее У часе засухі большасьць кветак зусім ня выдзяляе нэктару і наадварот, у цёплую пагоду ды пры вільготным паветры медаваньне кветак дасягае найбольшай меры. Пасьля грымотных і дажджыстых дзён выдзяленьне нэктару павялічваецца і даходзіць да найбольшае нормы:

Асаблівай уражлівасьццю да стану пагоды адрожніваецца ліпа. Паводле Фріка, у парны, цёплы дзянёк адно дрэва ліпы зможа даць толькі нэктару, колькі гэктар грэчкі, таму што нэктар выцякае ў ёй бясперастанку, як бы з ручча.

Мядаваньне расьлінаў зьмяняецца таксама ў залежнасьці ад клімату і гэографічнай шырыні мясцовасьці. Там, дзе клімат за-

сушлівы, расьліны менш мядуюць. Чым далей на поўнач (зразумела, да пэўных граніцаў), тым больш у расьлін вытвараецца нэктару.

Гэтак сама у значнай ступені медаваньне расьліны залежыць і ад глебы, падглебы, спосабу гадоўлі расьліны і г. д.

Медаваньне шмат якіх расьлінаў вагаецца ў працягу дня. Калі, напрыклад, у даннай мясьцовасьці ў раняшнія гадзіны стаяць туманы і халодныя вятры, веючыя з балотаў, то гэта можа адбівацца на медаваньні некатарых расьлінаў. У другіх мясцовасьцях, дзе дні часта бываюць ясныя, там палючыя праменьні сонца могуць высушваць нэктар у расьлінаў, і дзеля гэтага у дзенныя гадзіны нэктару можа аказацца менш, як бы гэта магло быць пры больш вільготным клімаце. Калі падыходзіць к нэктарадайнасьці асобных расьлінаў, то ўбачым, што рад расьлінаў вытварае нэктар у розныя гадзіны дня. Напрыклад, грэчка (паводле Фоміных) у ясную пагоду выдзяляе нэктару больш у раньнія і вячэрнія гадзіны. У пахмурную пагоду яна выдзяляе больш нэктару ў паўдні і ў дзень. Канюшына у ясную пагоду выдзяляе нэктару больш раніцаю, у паўдні менш, па паўдні ізноў павышаецца, як раніцаю, а пад вечар слабее.

Паводле Лайанса і Боньe, у харошы дзень колькасьць нэктару аднэй і тэй самай расьліны зьмяншаецца паступова да 3 гадзін папаўдні, каб пасьля ізноў павялічыцца ўвечары; павялічэньне гэтае прадаўжаецца праз усю ноч да усходу сонца. Калі тэмпэратура вельмі высокая, то выдзяленьне нэктару будзе толькі раніцаю. Гэтак, напрыклад, у Алжыры ў часе вялікіх засух улетку пчолы толькі раніцаю знаходзяць узятак, а пасьля 8 гадзін раніцы ўжо ўсе сядзяць у вульлёх.

Паводле Фоміных, колькасьць нэктару мяняецца ў працягу дня ў залежнасьці ад пагоды і будовы кветкі. Кветкі з адкрытамі нэктарнікамі у ясную пагоду ў дзень абніжаюць колькасьць нэктару, а падвечар павышаюць; а ў хмарную пагоду, наадварот: паднімаюць у дзень, а пад вечар абніжаюць. Кветкі з закрытымі нэктарнікамі у абодвух выпадках абніжаюць да паўдня, па паўдні павышаюць да раніпняга максімума, а ў ясную пагоду колькасьць нэктару заусёды большая, як у хмарную.

## Уплыў сонешнага сьвятла на медаваньe расьлінаў.

Сонешнае сьвятло, кажа Ловелль: ёсьць тая сіла, якая змушае працаваць расьліну так-сама, як электрычная сіла прыводзіць у рух машыну. Пазбаўце расьліну сьвятла, і запасы цукру хутка будуць зужыты, а выдзяленьне нэктару спыніцца.

Аднак-жа, вельмі сільнае сьвятло шкоднае для расьлін і яны ў гэтым выпадку так настаўляюць лісьцё, каб на іх менш падала сьвятла.

З вышэй сказанага можна зрабіць вывад, што чым больш сонечных дзён прыпадаючых на сэзон, тым медазбор павінен быць большым, дзеля таго, што з аднаго боку, некатарыя медадаі у сонешную пагоду даюць больш нэктару, а з другага боку — лёт пчол пры сонцы заўсягды сільнейшы.

Але тут трэба засьцерагчыся адносна медадайных расьлінаў з адкрытымі нэктарнікамі. Досьледы паказалі, што, напрыклад, нэктарнікі чырвонай канюшыны, якія схаваны у сярэдзіне кветкі, у ясныя дні вытвараюць нэктару у 2—5 разоў больш у параўнаньні з пахмурнымі днямі, а ў расьлін, нэктарнікі якіх амаль зусім

ня прыкрыты, назіраюцца адваротныя вынікі.

Дзеля гэтага і пахмурнасьць для адкрытых нэктарнікаў уплывае дадатна. Грэчка і гарчыца, у якіх нэктарнікі адкрыты, у пахмурныя дні вытвараюць нэктару ў 1½—3 разы больш і наадврот, у канюшыны ў пахмурную пагоду дзеяльнасьць нэктарнікаў абніжаецца.

На тэй самай падставе цень, падаючы на расьліны скарочвае дзеяльнасьць нэктарнікаў. Вось таму зразумела, чаму травяністыя і куставыя расьліны у лясох меньш мядуюць, чым калі яны растуць на прасеках або на палянках.

## Уплыў тэмпэратуры на медаваньне расьлін.

Тэмпэратура аказвае большы ўплыў на выдзяленьне нэктару, як сьвятло. Тэмпэратура, пры якой нэктар пачынае выдзяляцца і пры якой выдзяляецца яго найбольш, бывае неаднолькава ў розных медадайных расьлін. Напрыклад, у вішні выдзяленьне нэктару настае пры тэмпэратуры 8° с., у чаромхі— пры 10° с., Досьледы у Амэрыцы (м. Кларынд, штат Айова) паказалі, што найбольшы збор мёду з белай конюшыны быў у дні з тэмпэратураю 28—33° с; што найбольш выдзяляецца нэктару пры тэмпэратуры ад 28° да 38° с; што тэмпэратура вышэй 38° С. аказвае адʻемнае дзеяньне на медаваньне расьлін.

Шмат ёсьць добрых медадайных расьлінаў, якія шмат выдзяляюць нэктару і пры ўмеркаванай тэмпэратуры, а нават і пры параўнальна нізкай тэмпэратуры. Вярбіца, напрыклад, выдзяляе шмат нэктару у такую пагоду, калі з ліпы і канюшыны пчолам няма чаго браць. Грэчка, паводле Фоміных, больш выдзяляе нэктару пры тэмпэратуры нізкой 16° с. Верас добра мядуе ў ранішнія гадзіны (у верасні месяцы) пры тэмпературы 9°—11° с.

## Медаваньне й вільгаць.

Вільгаццю называецца прысутнасьць вадзяной пары ў паветры. У дажджлівы дзень паветра бывае насычана вільгацьцю на сто процэнтаў; у сухую пагоду — ледзь, на 50 процэнтаў.

Ў мёдзе, які сабраны пры вільготнай атмасфэры, заключаецца больш вады, як у сабраным пры сухім паветры.

Наагул жа найбольш спрыяе для выдзяленьня нэктару сярэдні стан вільгаці ў паветры, г. з. 60-80 працэнтаў. Аднак-жа некатарыя расьліны і тут робяць свае выняткі. Гэтак, паводле Фоміных, грэчка і агурочнік больш выдзяляюць нэктару пры больш вільготным паветры, а фацэлія пры больш сухім паветры.

## Уплыў дажджоў і засух на медаваньне расьлін.

Многія пчаляры заўважылі, што цёпла - вільготная пагода найлепш забясьпечвае добры сбор мёду. Пры ўмеркаваных дажджох і цёплым леце ўсякая наагул расьліннасьць разьвіваецца багацей і лепш забясьпечвае пасекі медам.

Беспасярэдня пасьля дажджу колькасьць нэктару сільна павялічваецца. Калі, напрыклад, напярэдадні прайшоў дождж, то на наступны дзень нэктару выдзяляецца больш. Тое самае бывае і ў працягу дня, калі дождж выпадае ў ранішнія гадзіны, а затым зьмяняецца цяплом і сонцам.

Лішнія дажджы шкодны для медаваньня расьлін, бо тады сама расьліна буйна расьце, а кветкі разьвіваюцца слабей і дзеля гэтага менш выдзяляюць нэктару. Апрача таго, у тых расьлінаў, як напры-

клад, у грэчкі, у якіх нэктарнікі адкрыты, працяжныя дажджы выпалоскаваюць нэктар з нэктарнікаў.

Але найбольш згубны для медазбору сьпякоты, калі ў паветры бывае зусім мала вільгаці. Ад палючых праменьняў сонца і сухавею расьліны ня толькі ня вытвараюць нэктару, але самі не разьвіваюцца, вянуць, жаўцеюць і сохнуць. У гэтакія дні пчолы нічога ня могуць сабраць, нават корму для дзетак.

## Уплыу ветру на медаваньне.

Паводле Фоміных, вецер ніколі ня можа быць спрыяючым для выдзяленьня нэктару. Усё роўна, ці вее халодны паўночна-усходні вецер ці сьпякотны сухавей, нэктарнікі скорчваюцца і спыняюць працу.

Некаторыя расьліны да таго чулы к ветру, асабліва сухому, гарачаму, што зусім спыняюць выдзяленьне нэктару. Асабліва ўражлівы к такім вятром расьліны з адкрытымі кветкамі. Як прыклад, могуць служыць ліпа і грэчка на якія вельмі часта шкодна дзеіць гарачы вецер. Нават на зярно грэчка ў гэтакім выпадку бывае вельмі благая.

У такіх прыпадках калі рэзка абрываецца ўзятак з ліпы або грэчкі, дзякуючы зьмене ветру на сухі і гарачы, часта бываюць напады пчол на чужыя пасекі больш слабыя і рабуюць іх да чыста.

## Уплыу агульных варункау пагоды на медаваньне.

З папярэдніх асабных мэтэоролёгічных дзейнікоў мы пераканаліся, якое вялікое значэньне для медаваньня расьлін маюць тэмпэратура і вільгаць паветра, але медазбор агульны заўсягды залежыць ад таго, якое было с палучэньне мэтэоролёгічных варункаў і якая ў выніку гэтага вышла пагода за увесь пчалярскі сэзон.

Агулам можна сказаць, што цёплае і ўмеркавана - вільготнае лета дае найлепшы медазбор.

Зьмяншаецца выдзяленьне нэктару ніжэй 15°, пры слабым сонешным сьвятле, сухім паветры, пры вятрах наагул ды больш усяго пры паўночна - усходнім халодным і паўднева-усходнім сухім.

Усялякія рэзкія перамены пагоды, асабліва наступленьне дажлівых пэрыядаў або працяглых сьпякотаў, вельмі неспрыяюць дла медазбору.

У асобныя пэрыяды лета найлепшы ўзятак бывае: 1) пасьля цёплай ціхай начы, 2) калі пярэднем на досьвітку ідзе дождж, а пасьля ясна, 3) калі ідзе дробны дожджык у перамежку з сонешнаю пагодаю, 4) калі горача, але па небу ходзяць легкія хмары, 5) калі горача, а ўдалі чутны грымоты, 6) чым больш навальніц, тым больш узятку.

Агульныя варункі пагоды вельмі значна уплываюць ня толькі на медаваньне, алеж на лёт пчол, што у сваю чаргу, зразумела, адбіваецца на медазборы.

*Я. Ш.*

## Каляндар пчаляра ў чэрвені.

Месяц чэрвень — месяц раеньня пчолаў. Хаця ў паступовага пчаляра не павінна быць натуральных раёў, бо гэта шмат забірае часу на пільнаваньне, дый не заўсяды пільнаваньне ўдаецца, рой можа ўцячы. Аднак, нават, пры найпільнейшым даглядзе часам пчолы могуць выраіцца і дзеля гэтага трэба

быць прыгатаваным, каб рой было дзе асадзіць: старыя вульлі трэба старанна вычысьціць, а новыя загадзя памаляваць, каб сьвежы пах хварбы не пракудзіў пчолам. Трэба мець пад рукой райніцы і іншыя прылады да зьбіраньня і асаджываньня раёў.

Калі ня хочам мець раёў, пільна сочым за пчоламі і ў адпаведным часе пабольшываем гнёзды, даём вузу, а калі гнязда пашырыць нельга, дзякуючы абмяжаваным разьмерам, ставім раней надстаўкі Ня варта асаджываць раёў малых а толькі сільныя 2—3 кг. вагі а ніжэй аднаго кг. павінны злучацца па два а то і тры раі. Таксама ня варта асаджываць раёў позных, пасьля другой паловы ліпня.

Новым раём даём толькі рамак, колькі яны абсядуць, бо калі даць зашмат дык яны будуць цягнуць усю вузу разам і да зімы ня выцягнуць і ня зробяць сабе гнязда, тады калі дадзём колькі трэба, то рой зробіць сабе на зіму гняздо.

За маладым роем трэба больш старанны дагляд як за старым. Трэба глядзець ці не адкляілася вуза, ці добра цягнуць вузу ці матка заплодненая, а можа матка згінула ў часе ігры і трэба даць новую. Каб адразу даведацца ці матка ня згінула, то асаджываючы рой даём яму рамку з маладой чарвой і яечкамі і пчолы па згубе маткі зараз-жа заложаць матачнікі і тэтым нас паведамяць.

# Каляндар агародніка на травень.

*У садзе.* Да паловы месяца каньчаць угнойваньне дрэваў і кустоў. Маладыя, у красавіку пасаджаныя дрэўкі ў выпадку засухі моцна паліваць; калі́б знайшліся штукі, як быццам ня прыжыўшыя, то трэба папрабаваць абкруціць іх мокрым мохам і часта яго спрысківаць, а зямлю кругом дрэвак абложыць гноям.

— Каньчаць шчапленьне фруктовых дрэваў.

— Вырэзываць слабыя галінкі малінаў, астаўляючы ў кусьце 5-6 самых моцных. Зямлю ў трускаўках і малінах перакапаць матычкай і ачысьціць ад пустазельля. Трускаўкі паліваць гнаёўкай найкарыстэй з курынага навозу.

— Калі фруктовыя дрэвы адкрасуюць і завяжуць овачы, добра падліць іх разьведзенай гнаёўкай.

Вясьці барацьбу са шкоднікамі. Зямлю пад дрэвамі і кустамі перакапаць. Зьбіраць старанна вопрадні гусьвіцаў на дрэвах. Расьліны апанаваныя мшыцамі апырсківаць пылам, адварам „квасы" (купляецца ў аптэцы), адварам памідоравага лісьця або т. зв. эмульсыяй з газы і мыла.

Калі́б масава зьявіліся хрушчы, абтрасаць іх раніцай на посьцілкі і аблі́ўшы варам даваць курам і качкам.

*У агародзе*: Высаджываць на грунт, калі пагода пазваляе раньнюю капусту, каляфёры, рассаду, цыбулі, памідоры. Каля 10 траўня садзіць фасолю, а ў палове месяца агуркі і гарбузы. Берагі загонаў з агуркамі абсаджываць — салатай і радыскай.

Калі́б капусныя расьліны апанавала земляная блошка—пасыпаць іх рана пакуль ёсьць раса — пылам з вапны, тытуню або попелам.—Не дапускаць да зарастаньня загонаў пустазельлям, а выпелянае складаць на кампост, або прыгатаўляць з яго гнаёўку. Зямлю паміж варывам якнайчасьцей ўспульхніваць асабліва падчас засухі, . або пасьля сільнага дажджу.

## Каляндар агародніка ў чэрвені

Страсаць з дрэваў на посьцілкі жучкоў кветкаеда, нішчыць вопрадпі гусьвіцаў на дрэвах, абразаць галіны з сухімі кветкамі на сьлівах, вішнях і чэрэшнях. Фруктовыя дрэвы і ягадныя кусты, апанаваныя гусьвіцамі апырськіваць парыскай цеччу 2—3 разы; апанаваныя мшыцамі, апырсківаць тытуновым экстрактам, адварам квасіі, ці газавай эмульсіяй. Апалоць трускаўкі і падаслаць саломай ці мохам, каб пасьля ягады не укачываліся ў пясок. Гарод ачысьціць ад пустазельля. Садзячы рассаду капусты, флянсы памідораў, глядзець, каб расьліны былі здаровыя: жаўтаватыя з плямачкамі, з пашкоджаным карэньнем выкідаць.

---

# Як павялічыць колькасьць пашы.

Даецца заўважыць, што найбольш балючым мейсцам дробных селянскіх гаспадарак, ёсьць недахоп пашы, і што з гэтага вынікае немагчымасьць разьвіцьця малочнае гаспадаркі. У апошнія часы пытаньне павялічэньня колькасьці пашаў займае' можна сказаць, усіх гаспароў у Эўропе і дзеля таго робяцца што раз новыя досьледы і што раз новыя расьліны кармовыя заваёваюць сабе мейсца. Разгледзім коратка тыя, якія ў нас яшчэ мала, або зусім нязнаныя.

— На слабейшай зямлі, дзе ня ўдаюцца буракі варта прабаваць заводзіць *кармовую морхву;* ёсьць яе некалькі адменаў, усе даюць здаровую і пажыўную пашу, у колькасьці да 300 квінталяў з гэктара.

— На добрай зямлі, да аграмадная вялічыні дарастае *кармовая дручка*. Сеяць яе можна ў траўні проста на мейсца ў радкі на 40 цм. адзін ад другога, густа прарослую перарываецца на адпаведную адлегласьць.

— На позны васеньні корм надаецца *рэпа кармовая* васеньная. Надаецца да ўжытку ўжо ў 3 месяцы пасьля пасеву. Сеюць яе галоўным чынам на заґараных і забаранаваных пожнях.

— На зялёны корм, які можна ўжываць сьвежы і прыгатаўляць з яго *сілас* вельмі падаецца *кармовы сланэчнік.* Удаецца ён і на слабейшай зямлі, добра пераносіць засуху, расьце хутка. даючы ўжо ў 9-10 тыдняў вялікую масу зялёнай пашы. Дзеля таго, што расьце хутка можна яго сеяць аблічыўшы час так, каб мець пашу на найцяжыўшую пару. На зялёную пашу зрэзываецца сланэчнік перад самым красаваньнем, на сілясы ў поўным красаваньні.

Да больш знаныхкармовых расьлінаў належыць г. зв. *конскі зуб*, адмена кукурузы. Дае ён масу зялёнай пашы на сьвежы корм і на сілясы, але паша гэта даволі вадзяністая, дзеля таго трэба жывёлу падкормліваць іншымі пашамі багацейшымі ў бялок. Конскі зуб патрабуе зямлі добрай і добра ўгноенай. Сеецца ў палове траўня, бо баіцца прымаразкаў.

Гадоўцы *цыкорыі*, якой карэньне адпаведна прытоўленае служыць дамешкай да кавы, зьвярнулі на яе ўвагу, як на расьліну кармовую асабліва адпаведную дзеля выкормліваньня сьвіней, Зьявіліся сярод гадоўцаў галасы, што сьвіні, а нават хатнія птушкі кормленыя цыкорыяй робяцца адпорнымі на заразьлівыя хваробы. Цыкорыя найлепш удаецца на зямлі сярэдняй,

багатай вапнай. Можна яе гэтак сама сеяць на лепшым пяску. На ўгноенай зямлі дае цыкорыя 3-4 і нават часам 5 пакосаў. Дзеля гэтага на пракармленьне праз лета аднаго парсюка абсяваюць 40-50 мэтраў квадратовых поля. Сеецца яе ў першай палове траўня.

— Да расьлін кармовых, гадаваных на залёную пашу і то на самую позную пару належыць *кармовая капуста*. У добрых варунках дае яна 400 да 600 кіл. пашы з 1 ара (100 квадратовых мэтр.). Добра пераносіць маразы да 10 градусаў, дзеля гэтага можа стаяць у полі да сьнежня. Першыя зборы дае ў жніўні. На пашу насамперад адрываецца лісьцё знізу, і паступова ў гару па меры нарастаньня маладога лісьця. Капуста кармовая ўдаецца там, дзе і капуста звычайная; зямля пад яе можа быць прыгатаваная як пад буракі, але гною патрабуе яна шмат, а хочучы атрымаць вялікі ўраджай зялёнай масы, трэба стасаваць і штучныя гнаі, што зрэшта можна сказаць і аб усіх іншых кармовых расьлінах.

— У апошнія часы пачалі ў нас цікавіцца новай расьлінай, якую называюць *чуміза*, або *манджурская проса*.

Гэта расьліна мала вымагаючая, добра ўдаецца на зямлі сярэдняй і слабейшай, ня любіць толькі грунтаў халодных і падмоклых. На засуху чуміза вельмі вытрывалая, веснавых прымаразкаў не баіцца. Сеяць яе найлепш пасьля бульбы ў месяцы траўні. Насеньне дробнае; трэба яго на 1 ар. (100 кв. мэт.) 40-50 грамаў. Чуміза дае з 1 гэктара каля 200 кв. зялёнай пашы, калі яна сеецца на зялёную; зьбіраная сьпелая дае да 300 квінт. зярна і да 150 кв, саломы.

Каша і мука з зярна чумізы гэта добры і пажыўны корм для людзей.

Для жывёлы чуміза ўжываецца зялёнка, зярно вымалачанае, цэлыя не малочаныя расьліны, мякіна і салома на сечку. — Чумізу выпрабаваць варта, хоць на малых, спачатку, кусочках зямлі.

— Да больш знаных і ўжо шмат дзе сеяных у нас расьлінаў кармовых належыць г. зв. *салодкі лубін*, зярно якога і лісьцё надаецца на пашу.

Але бяда ў тым, што гэты лубін лёгка крыжуецца са звычайным гаркім лубінам і сам робіцца гаркім нездатным да ўжытку.

Зусім новай адменай лубіну, які ня крыжуецца з іншымі і астаецца так сказаць вечна салодкім, ёсьць *лубін касматы* (lupinus hirsutus).

Вось як акрэсьліваюць яго дадатнія бакі:

1) Вырастае больш чым на 1 мэтр. вышыні.

2) Дае ў 5 разоў больш зялёнай масы і зярна, чым іншыя лубіны.

3) Вытрывалы на прымаразкі.

4) Вытрывалы на засуху.

5) Не вымагаючы, што да якасьці глебы.

6) Азотныя барадаўкі, мае ня толькі на грубых карэньнях, але і на ўсіх дробных валаскаватых карэньчыках, так што лепш ўзбагачывае глебу ў азот, чым іншыя лубіны.

— Праўда, што насеньне яго дарагое — па 3 зл. за 1 кіляграм, але дзеля таго, што ён дае вялікі ўраджай нават з маленькай колькасьці можна выгадаваць сабе насёньне на далейшы развод.

Канчаючы перагляд кармовых расьлінаў мусім прыпомніць, аб *жывокосьніку*, які ў вялікай колькасьці садзяць у Даніі, а у Нямеччыне, у апошнія часы вызначаюць кары на тых сялян, якія ня маюць плянтацыяў жывакосьніку. На Паморрі садзяць яго шмат, толькі нашы селяне неяк гэтай расьліны не дацэніваюць. А шкода. Дае

ён шмат вельмі карыснай пашы і як расьліна трывалая зусім мала вымагае працы.

Расьце на кожнай зямлі апрача тарфянішчаў і цяжкой гліны, але зямля мусіць быць даволі вільготнай. Праўда, што вымагае добрага ўгнаеньня, але 6-7 пакосаў за лета, аплачываюць наклад у некалькі разоў.

Ня трэба забывацца, што карэньне *жывакосьніку* ў вялікай колькасьці патрэбна ў мэдцыне, так што можна выкарыстаць плянтацыю таксама і ў гэтым напрамку.

*Л. В.*

---

# КАНВАЛЕЯ.

лац. Convallaria majalis. пол. Konwalia, рас. Ландыш, літ. pakalnutê.

Прыгожая кветка канвалея, якая ў вялікіх колькасьцях зьбіраецца на букеты, мае вялікае застасаваньне і ў мэдыцыне. Ужо аддаўна канвалея ёсьць знаная як лек пры хварабах сэрца. Даецца яна хворым пераважна ў пастаці капляў.

Ужываюцца дзеля пераробкі на лекі кветкі канвалеі і надаюцца на гэта кветкі як сушаныя, так і сьвежыя. Але дзеля таго, што свежыя кветкі хутка трацяць свае лекарскія ўласьцівасьці зьбіраць іх трэба толькі на заказ.

Сьвежыя кветкі канвалеі трэба вязаць у пучкі, злажыць у кошычкі, аблажыць мохам і гэтак перасылаць у аптэкі ці лябараторыі дзеля пераробкі на каплі.

Дзеля сушэньня зьбіраць трэба белыя каронкі кветак, бяз трончыкаў. падчас поўнага разсьцьвету, стараючыся іх не паціскаць. Сушыць сабраныя кветкі можна або ў цяні, або пры павышанай тэмпературы до 35°. Высушаныя кветкі ня маюць паху і бываюць белакрэмовага колеру. Пачарнелыя кветкі трэба бязумоўна выкінуць: бо аны будуць псаваць цану тавару. Сухіх кветак атрымліваецца каля 12—13%. Трымаць сушаную канвалею трэба ў шчыльных пасудзінах. Цана сушаных кветак досыць добрая. У сэзоне, калі выкідываецца на рынак большыя колькасьці тавару, яна спадае да 6 зл. за кгр. У леташнім годзе цана дахадзіла да 12 зл. Запатрабаваньне вялікае і дзеля гэтага варта падумаць і аб гадоўлі канвалеі. Але аб гэтым паговорым пазьней.

*М.*

---

# Беларуская хроніка.

— 29 красавіка с. г. памёр у Вільні малады 19-ці гадовы беларускі студэнт Вячэслаў Стаўбунік. Памёр з прычыны камплікацыяў пасьля водры. Нябожчык прыймаў чынны ўдзел у грамадзкім жыцьці. Быў Ён і нашым шчырым прыяцелям і памочнікам. Вечная Яму памяць.

— Выйшаў, пасьля перапынку чарговы нумар культурна-грамадзкага і літэратурнага часапісу *„Беларускі Летапіс“*. Зьмест нумару багаты і цікавы.

— *Калосьсе* — літэратурна-навуковы квартальнік № 10 1938 г. вышаў з друку. Падпіска 2 зл. Цана № 50 гр.

*Наша песьня* — зборнік народных песьняў з рэпэртуару Беларускага Хору Р. Шырмы. Цана 2 зл. 50 гр.

— Ад сакавіка, з нязнаных прычын, ня выходзіць дзіцячы часапіс *„Снапок“*, які выдавала праваслаўная мэтрапалія ў Варшаве.

— Віленскі Акружны Суд апраўдаў гр. Я. Шутовіча, рэдактара-выдаўца аднаднёўкі *„За родную школу“*, якая была выдана ў 1936 г. падчас школьнай акцыі і была сканфіскавана.

— У Вільні адбыўся, з вялікім посьпехам, канцэрт нашага слаўнага тэнара *М. Забэйды-Суміцкага*. Як мы чулі ў пачатку чэрвеня артыст будзе пеяць праз радыё на Лёндын, У праграме ёсьць і песьні беларускія.

— Украінскі кампазытар *А. Кошыц*, які зараз жыве ў Амэрыцы згарманізаваў і прыслаў у Вільню гр. Р. Шырму, колькі беларускіх народных песьняў. Адна з іх ужо надрукавана ў апошнім нумары Бел. Летапісу.

— 4 траўня ў Віленскай Беларускай Гімназіі пачаліся матуральныя экзамены. Прыступіла да іх 17 асоб.

— 15 красавіка ўлады спынілі дзейнасьць Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, апошняй беларускай культурна-сьветнай арганізацыі.

# Паштовая скрынка.

Усіх паважаных чытачоў, якія выслалі складкі паведамляем, што грошы атрыманы і гэты нумар высылаем, як першы сёлета выпушчаны.

Хто ня ўрэгуляваў старых рахункаў просім зрабіць гэта якнайхутчэй у сваіх уласных і агульна грамадзкіх інтэрэсах.

*Рэдакцыя і Адміністрацыя.*



Рэдагуе Рэдакцыйная калегія: Л. Войцікава, М. Манцэвіч, М. Караленка, А. Войцік.

Адказны Рэдактар і Выдавец: Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк- Вытворча-Гандлёвай Каапэратызы. Вільня, Троцкая вул. 7.